ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $1.00

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS, P. O. BOX 109, JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год. XXV, № 221 New York, September — Верасень 1975, Нью Ёрк Vol. XXV, № 221

## ГЭЛЬСІНКІ

Падпісаны ў жнівені сёлета 35-ма дзяржавамі ў Гэльсінках дакумэнт у справах бясьпекі й супрацоўніцтва ў Эўропе стаўся тэмаю спрэчак і крыніцаю разыходжаньняў — ня толькі між прадстаўнікамі краінаў з рознымі палітычнымі сыстэмамі, але й між людзьмі, што належаць да тае самае нацыянальнасьці й таго самага палітычнага кірунку. Што адбылося ў Гэльсінках? Хто там выйграў, хто прайграў? Як ацэньваць падпісаные пагадненьне?

Шукаючы адказаў на гэтыя пытаньні, трэба перш-наперш мець наўвеце, што гэльсінкаўскае пагадненьне — гэта дакумэнт на сотню старонак друку. Значыцца, напісана ў ім шмат чаго — і гэткае, чаго дамагаліся Саветы, і гэткае, чаго хацеў Захад. Бо інакш ня было-б аніякага пагадненьня.

Чаго дамогся савецкі бок? — Таго, што былі прызнаныя сучасныя дзяржаўныя межы ў Цэнтральнай і Усходняй Эўропе — змацаваньне гэтак званага статусу кво (таго, што ёсьць): падзел Нямеччыны, тэрытарыяльна новая Польшча, улучэньне Прыбалтыкі ў Савецкі Саюз, і г. д. Чаго дамогся Захад? — Прызнаньня савецкім бокам магчымасьці ў будучыні мірнага задзіночаньня Нямеччыны, прызнаньня патрэбы пашырэньня кантактаў, абмену людзьмі й ідэямі (як шляху, у спадзяваньні Захаду, да эвалюцыі камуністычнае дыктатуры ў кірунку дэмакратыі).

Якая ацэна ўсяму гэтаму з гледзішча беларускага?

Замацаваньне эўрапейскага статусу кво азначае замацаваньне тэрытарыяльнага задзіночаньня былых Заходняе й Усходняе Беларусі ў вадно цэлае — тое, чаго ня было між першай і другой сусьветнымі войнамі ды што было паважнай перашкодай беларускаму адраджэньню. З гледзішча далейшага змаганьня нашага народу за непадзельнасьць свае тэрыторыі й сваю нацыянальна-дзяржаўную незалежнасьць — замацаваньне гэльсінкаўскім пагадненьнем тэрытарыяльнае кансалідацыі Беларусі — зьява дадатная (чаго ня скажуць, прыкладам, тыя Палякі, што яшчэ ўсё лятуцяць пра ўлучэньне „крэсаў усходніх" у будучую польскую дзяржаву; гэткія Палякі будуць **супраць** статусу кво на ўсходзе сучаснае Польшчы, але **за** статус кво на захадзе). Зразумела, мы й надалей усьведамляем сабе, што паза межамі сучаснае падсавецкае Беларусі ўсьцяж застаюцца беларускія этнаграфічныя й гістарычныя прасторы, якія павінны будуць увайсьці ў склад будучае незалежнае Беларусі.

Што **трэба** асуджаць і пасьля Гэльсінкаў — гэта панаваньне над Беларусяй маскоўскае камуністычнае дыктатуры, што аніяк ня лічыцца зь інтарэсамі беларускага народу, эксплятуе ягоныя прыродныя й людзкія рэсурсы для пашыраньня ў сьвеце сваіх уплываў. У змаганьні з маскоўскім імпэрыялізмам і каляніялізмам трэба шукаць магчымасьцяў і ў гэльсінкаўскім пагадненьні. Магчымасьці гэтыя перш-наперш у тым, што Захад характарызуе як пашырэньне абмену людзьмі й ідэямі. Асноўная ідэя, якою сяньня працятыя ўсе кантыненты й нат невялікія акіянскія астокі — гэта ідэя нацыянальнае свабоды незалежнасьці. Нат Папуасы Новае Гвінэі дасталі сёлета сваю дзяржаўную незалежнасьць! У Задзіночаных Нацыях ужо 141 дзяржава, і лік гэты далей расьце. Дык як можа жыць далей шматміліённы беларускі народ з багатай тысячагадовай гісторыяй і традыцыяй свае дзяржаўнасьці у нявольніцкай залежнасьці ад Крамля? Асноўнай ідэй беларускага народу ўсьцяж застаецца ідэя дэмакратычнае свабоды й нацыянальнае незалежнасьці. Гэльсінкаўскі дакумэнт павінен быць выкарыстаны, каб ідэя гэтая паглыблялася ў нашым народзе, каб здабыла сабе яшчэ больш гарачых і адданых прыхільнікаў, якія-б ведалі, што ідэя гэтая мае падтрыманьне ў заходнім сьвеце.

Масква, зразумела, і ейныя камуністычныя паплечнікі на Беларусі будуць усялякімі шляхамі й хітрыкамі змагацца з гэтай ідэяй, выкараняць яе із сьведамасьці людзей; будуць цынічна выкрыўляць сэнс гэльсінкаўскага пагадненьня ў духу заяваў Брэжнева й перадавіцаў партыйнага друку; будуць тармазіць там, дзе нявыгодныя ім тыя суступкі, да якіх гэльсінкаўскае пагадненьне заклікае. Але Захад цяпер мае больш фармальных асноваў дамагацца гэткіх суступкаў. Цяпер, прыкладам, узмоцнена вядуцца перамовы, каб савецкі ўрад даў магчымасьць заходнім карэспандэнтам атрымваць савецкія шматразовыя візы, каб ня трэба было кажны раз, як хочаш паехаць у Савецкі Саюз, падаваць заяву на візу. Гэтае дамаганьне йдзе ў духу гэльсінкаўскага пагадненьня. Брытанскі Прэм'ер Вільсан у верасьні сёлета, наведваючы Румынію, заклікаў камуністычныя рэжымы паслабіць абмежаньні звычайным людзям падарожнічаць з Усходу на Захад і наадварот. Гэта таксама дамаганьне ў духу гэльсінкаўскага дакумэнту. Дакумэнт гэты дае магчымасьці й тым Беларусам, што жывуць у заходніх краінах, а дома на Беларусі маюць сваякоў, зь якімі хацелі-б задзіночыцца. Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША, як і кажнае іншае заходняе міністэрства замежных справаў, мае цяпер большую фармальную аснову дамагацца ад Савецкага Саюзу магчымасьцяў на гэткае задзіночаньне сем'яў. Гэтую канкрэтную магчымасьць, трэба думаць, выкарыстаюць і чытачы нашае газэты. Дамагацца таксама трэба, каб савецкі рэжым даваў цяпер тым, што наведваюць сваякоў на Беларусі, дазвол ехаць на меса жыхарства тых сваякоў, у мястэчкі й вёскі, а ня звозіў усіх у Менск ды ня трымаць у гатэлі, дзе кажная сцэна мае КДБ-ўскія вушы.

Што да асноўнае нашае нацыянальнае ідэі, ідэі свабоды й дзяржаўнае незалежнасьці, дык нам трэба памятаць тое, што сказаў Прэзыдэнт ЗША Джэралд Форд напярэдадні свайго ад'езду ў Гэльсінкі на сустрэчы з прадстаўнікамі этнічных групаў Амэрыкі, на якую былі запрашаныя й Беларусы. А сказаў ён вось што: „Палітыка Амэрыкі, і мая асабістая ад часу, калі я пачаў займацца грамадзкімі справамі — падтрымваць усялякімі належнымі й мірнымі спосабамі асьпірацыі да свабоды й нацыянальнае незалежнасьці народаў Усходняе Эўропы, зь якімі мы маем цесныя культурныя й кроўныя сувязі".

Ведаць пра гэтую заяву Прэзыдэнта Амэрыкі важна ня толькі тым Беларусам, што жывуць у Задзіночаных Штатах, а й тым, што пакутуюць пад камуністычнай дыктатурай, тым яшчэ больш. Бо ў умовах савецкага паліцыйнага рэжыму, дзе магчымасьць палітычнага супрацьву здушаная жорсткім перасьледам, магчымасьці супрацьву псыхалягічнага, маральнага застаюцца вялікімі. Дык няхай ведаюць Беларусы на Бацькаўшчыне, што Амэрыка, прынамся ў прынцыпе, прызнае права нашага народу на запраўдную нацыянальную незалежнасьць і свабоду, права нашых суродзічаў у Савецкім Саюзе на больш шырокія грамадзкія свабоды. А тыя з нас, што жывуць у Амэрыцы, маюць за свой абавязак зрабіць усё магчымае, каб заява Прэзыдэнта Форда знаходзіла пацьверджаньне ў ягонай канкрэтнай дзяржаўна-палітычнай дзейнасьці.

**А. Будзіч**

## ВЯЛІКАЯ УРАЧЫСТАСЬЦЬ У АДЭЛЯЙДЗЕ



Урачыстасьць высьвячэньня новазбудаванай залі

Ад часу, як існуе царква БАПЦ у Адэляйдзе (Паўдзённая Аўстралія), яшчэ ня было гэткай царкоўна-грамадзкай урачыстасьці, як у нядзелю 13 ліпеня сёлета. Гэта было парахвіяльнае сьвята нашай царквы імя Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла. Апрача, гэтага, і адчыненьне новапабудаванай прыцаркоўнай залі, якая станецца цэнтрам рэлігійна-грамадзкага жыцьця ў Адэляйдзе. Да гэтага дня парахвія інтэнсыўна рыхтавалася загадзя, таму й сьвята прайшло на радасьць усім прысутным.

Урачыстую Божую Службу адправілі а. Георг і шаноўны госьць а. Аляксандар з Мэльбурну. Малебен да Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла адправілі а. Аляксандар, а. Георг, а. Жылінскі з УПАЦ і ягоныя пратадыякан Разьнічэнка. Падчас Божае Службы прыгожа й мэлядыйна сьпяваў царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса. Пасьля заканчэньня малебну хор прапяяў „Многае лета" Мітрапаліту Андрэю, Архіяпіскапу Мікалаю, настаяцелю а. Георгу й парахвіянам. Служба Божая закончылася прапяяньнем беларускага рэлігійнага гімну „Магутны Божа".

Потым усе прысутныя былі запрошаны ў залю, дзе а. Аляксандар паблагаславіў сталы. У часе абеду было шмат прамоваў. Спачатку прамаўляў а. Аляксандар, які выказаў задавальненьне зь дзейнасьці парахвіі й пажадаў ёй далейшых посьпехаў. Тады а. Георг сказаў, што ён працуе з ахвотай і ганарова ў нашай царкве, маючы шчырае падтрыманьне ад парахвіянаў. Айцец Жылінскі выказаў радасьць, што ён выслухаў Службу Божую й малітвы ў беларускай мове, ды пажадаў парахвіі плённае дзейнасьці ў будучыні.

Сп. П. Трысмакоў у свайой прамове зазначыў, што сяньня дзень нашае радасьці, што сяньняшняя ўрачыстасьць — урачыстасьць усяго беларускага народу й БАПЦ, якая натхняе нас на добрыя справы. Старшыня Парахвіяльнай Рады Станкевіч падзякаваў усім, хто прылажыўся да пабудовы залі, і асабіста сп. Ул. Акавітаму, пад кіраўніцтвам і працай якога была пабудавана заля. Ён падзякаваў таксама сп. Чорнагалану, які шмат дапамог як матарыяламі, гэтак і працай, ды сп. Кулінічу, які ахвяраваў значную грашовую дапамогу. Сп. Мікола Нікан перадаў прывітаньні ад Беларусаў Мэльбурну ды падзяліўся весткамі пра жыцьцё Беларусаў у іншых краёў, якія ён наведаў падчас свайго вандраваньня па сьвеце.

У часе абеду зь перапынкамі адбывалася мастацкая праграма. Сп-чна Соня Бурнос прадэклямавала патрыятычны верш В. Каратынскага „На чужыне". Сп. М. Бурнос прачытаў верш „На выгнаньні", які напісаў сп. Янка Ролсон з нагоды пабудовы залі. Вельмі прыемнае ўражаньне зрабілі дзеці Сп-ва Калесьніковічаў — сын Павал і дачка Ганна, дэклямуючы прыгожыя беларускія вершы. Знайшліся аматары гумарыстычных вершаў і апавяданьняў — сп. сп. Зелянеўскія й П. Трысмакоў.

Шчырае дзякуй Парахвіяльнай Радзе за добрае зарганізаваньне сьвяткаваньня, дзякуй нашым жанчынам, што ўпрыгожылі залю й падрыхтавалі у вялікай колькасьці смачную ежу.

**Парахвіянін**

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДОРАТЫ



**Хлебам і сольлю рыхтуецца вітаць Уладыку Мікалая Сьцяпан Трубілаў. Пасярэдзіне Юрка Драздоўскі**

У лесе паміж высокіх дубоў стаіць беларуская царква, а ў ёй замацаваўся й змагаецца зь няпрыязнымі вятрамі, як і тыя-ж дубы — сьвятар Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы айцец Карп Стар. Вось ужо тры гады, як зь ягонай ініцыятывы быў куплены й аднаўлены царкоўны будынак. Беларусы, Украінцы й Казакі згодна працавалі над яго аднаўленьнем. Аднак напады й нагаворы супраць гэтае царквы ворагаў нашага народу з часам не слабелі, яны трываюць да сяньня і маюць свой дэструкцыйны ўплыў на некаторых людзей, бо натура людзкая слабая. Цяжкія хвіліны перажывае а. Карп з матушкай, але ён моцны, як тыя дубы, яго загартавала жыцьцё ў жорсткім бальшавіцкім асяродзьдзі. Вырваўшыся з гэнага пекла, ён здолеў эміграваць у Задзіночаныя Штаты й пасяліўся ў Дораты на паўдні штату Нью Джэрзі, недалёка Атлянтык Сіты, дзе далучыўся да існуючай тут праваслаўнай царквы.

Даведаўшыся па даўжэйшым часе пра існаваньне беларускае царквы ў Нью Ёрку, пачаў адведваць яе. Сьв. Пам. Уладыка Васіль высьвяціў яго па нейкім часе ў дыякана, а пазьней ён быў высьвячаны і ў сьвятары ў Нью Ёрку. Што нядзелі прыяжджаў а. Карп у Нью Ёрк з матушкай Вольгай, якая дапамагала яму, як магла, і пры службе, і пры арганізацыі сястрыцтва.

Мы пазналі яго, як добрага й ахвярнага пастыра. Пяць гадоў гэтак абслугоўваў ён нашую царкву ў Нью Ёрку, быў заўсёды раненька ўжо тут, не зважаючы на пагоду ці іншыя перашкоды. Вось таму тыя, што памятаюць гэта, і едуць хоць адзін раз у год па тэй-жа дарозе ў Дораты на парахвіяльнае сьвята Сьвятой Тройцы. Едуць і прыхаджане суседняй парахвіі з Гайлэнд Парк, наймаючы адмысловы аўтобус, каб падтрымаць суседзяў, якія будуюць у няспрыяльных абставінах дом Божы.

Зьехалася шмат людзей. З Таронта (Канада) прыехаў архіяпіскап Мікалай, з Гайлэнд Парк а. Аляксандар, хор з рэгентам зь Нью Ёрку, хор з рэгентам з Гайлэнд Парк. Ня памятаю дакладна ўсіх тых дабразычлівых і сардэчных слоў, выказаных пры гэтай нагодзе. Але тыя, што найбольш мяне кранулі, зафіксаваліся ў памяці.

„Тры гады таму мы тут запалілі сьвечку, кволую сьвечку, ня ведаючы, як яе захаваць ад няспрыяльных вятроў... Бог захацеў, каб тая сьвечка не пагасла", — казаў а. Карп на супольным абедзе.

Уладыка Мікалай на пропаведзі ў царкве сказаў: „Царква ў народзе — гэта душа ягоная. Народ, які не мае свае царквы, ёсьць мёр-



**Вяртаюцца ў царкву з Крэсным Ходам: Айцец Карп з прыслужнікамі. Зьлева Айцец Аляксандар**

твым. І няма дзіва, калі паўстаюць новыя нашыя цэрквы, няпрыязныя, варожыя сілы перашкаджаюць ім расьці. Падобна было і ў Дэтройце, і там падмаўлялі людзей, каб не давалі ахвяраў на царкву. Але Бог захацеў іначай, і стаіць царква ў Дэтройце, так як і ў Дораты, бо Бог дае людзям сілы перамагаць гэтыя цяжкасьці й цярпеньні, каб мы гэткім чынам яшчэ больш шанавалі сваю царкву й сьцераглі яе, як вока. І ня трэба судзіць іх, ворагаў нашых, Бог іх судзьдзя, а нам трэба маліцца і за прыяцеляў і няпрыяцеляў нашых..."

Божая Служба была ўрачыстая з крэсным ходам, злучаны з трох парахвіяў хор пяяў надзвычайна добра, а рэгенты М. Тулейка зь Нью Ёрку й Ф. Родзька з Гайлэнд Парк па чарзе кіравалі ім. У гэты дзень быў высьвячаны ў дыяканы Сьцяпан Трубілаў ды атрымаў архірэйскае багаслаўленьне псаломчык Пётр Сарокін. Дык ужо не адзін а. Карп, а трох царкоўных служыцеляў будуць рупіцца пра царкву ў Дораты.

Пасьля службы быў супольны абед, падрыхтаваны сястрыцтвам з Гайлэнд Парк і прывезены сюды. Радаснае пачуцьцё згоды й хрысьціянскай любові вылівалася ў сардэчных прамовах. Цяжка пералічыць іх усе. Запамяталася, як сп. М. Тулейка сказаў, як мы ньюёркаўцы шанавалі й любілі а. Карпа й да сяньня застаемся яму ўдзячнымі за дапамогу нашай царкве пасьля сьмерці нашага Уладыкі Васіля. Нешта асабліва глыбокае — волю Божую бачыць сп. А. Шукелойць, старшыня Галоўнай Управы БАЗА ў тым, што, вырваўшыся з бальшавіцкага пекла, а. Карп прыймае свой сьвятарскі сан і становіцца будаўніком Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, навязваючы да старадаўных традыцыяў беларускага народу, да традыцыі Еўфрасіньні Полацкай і іншых мучанікаў за веру, якімі поўняцца турмы й канцэнтрацыйныя лягеры й сяньня. І дарма што за больш як 50 гадоў бальшавікі разбурылі цэр-

(Заканчэньне на 2-й бачыне)

# ПАВІЛЁН "МЕНСК" НА СЁЛЕТНІМ "КАРАВАНЕ" Ў ТАРОНТА



**Частка выканаўцаў мастацкай праграмы павілёну Менск перад уваходам у будынак павілёну**

Нішто хіба так вымоўна не гаворыць аб шматкультурным характары мэтраполіі Таронта, ці „культурнай мазайцы" Канады, як „МЭТРО ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНЫ КАРАВАН".

„КАРАВАН 75" трываў 10 дзён, ад 22 чырвеня да 1 ліпеня. Налічваў ён 54, раськіданыя па ўсёй мэтраполіі Таронта, павілёны. Кажны павілён жыва й усебакова прадстаўляў культуру народу, які ён рэпрэзэнтаваў. Кажны павілён быў сьведчаньнем ня толькі існаваньня, але й жыцьцяздольнасьці групы, што яго арганізавала. З другога боку, даваў ён неабмежаныя магчымасьці для пашыраньня інфармацыі пра край, гісторыю й культуру ды імкненьні народу. Караван 75 прадстаўляў 36 моваў сьвету й Таронта.

Адным з 54-ох павілёнаў быў беларускі павілён „МЕНСК". Знаходзіўся ён у будынку Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру на 524 Ст. Клярэнс авэню. Арганізавала яго Арганізацыя Беларускае Моладзі Канады пад старшынствам Паўлюка Пашкевіча. Мэрам-бурмістрам МЕНСКУ быў сп. Лявон Сладкоўскі, князёўняй—„міс" МЕНСКУ— сп-чна Ірэна Мышкоўская, і старшынём павілёну — сп-чна Эва Пашкевіч, якая, апрача гэтага, была адказной за мастацкую праграму і, разам з мастачкай Івонкай Сурвіла, за афармленьне павілёну. У прыгатаўленьні й утрыманьні праз 10 дзён КАРАВАНУ беларускай кухні брала ўдзел вельмі вялікая колькасьць ахвярных жанчын, сярод якіх, як адказныя былі спадарыні: Марыя Ганько й Валя Пашкевіч. Наагул, каб сарганізаваць ды ўтрымаць павілён чынным празь дзесяць дзён, патрэбна пругкая арганізацыя ды шматлікія ахвярныя рукі й галовы да працы.

І нашая моладзь, якая чатыры гады таму назад запачаткавала ўдзел Беларусаў у караване Таронта арганізацыяй павілёну МЕНСК у 1971 г., праз чатыры гады набралася дазнаньня, новых ідэяў і энтузыязму да тае ступені, што, ня глездзячы на ўсё большыя вымогі й цяжкасьці, падняла ў гэтым годзе якасьць павілёну МЕНСК да найвышэйшага дагэтуль узроўню. У гэтым годзе „МЕНСК" быў ня толькі найлепшым, але й „наймаладзейшым". „Маладосьць" павілёну заключалася ня толькі ў тым, што, апрача кухні, дзе працавалі „мамы", уся арганізацыя й абслуга „МЕНСКУ" была ў руках моладзі, але й у новых ідэях афармленьня ды ўсёй атмасфэры павілёну. Моладзі было шмат. Уся яна ў беларускіх народных касьцюмах, уся рухлівая й сыграная. Скрозь яе поўна. Яе сіла асабліва выяўлялася ў часе мастацкіх выступленьняў, калі частка яе была на сцэне, а рэшта сьцяной-лесам ля сцэны рэхам брала ўдзел у выступленьнях. Адчувалася, што моладзь пераняла „лейцы ў рукі".

На павілён „МЕНСК" здалёк паказвалі эмблемы КАРАВАНУ, Канады ды беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі. А неафіцыйна, „МЕНСК", што прытуліўся на рагу дзьвюх некамэрцыйных і спакойных вуліц, можна было пазнаць па беларускіх народных касьцюмах моладзі й падросткаў, што ня толькі стала круціліся ля павілёну, але й практыкаваліся на траўніку, ці асфальце вуліцы, у беларускіх танцах. Ды ці толькі свая моладзь, італьянскія дзеці на вуліцы Ст. Клярэнс пад „ля-ля-ля" скакалі „Лявоніху".

Яшчэ з вуліцы над дзьвярыма павілёну відаць быў напіс „Менск", з правага боку на чырвоным шчыце красавалася кветка васілёк, а зь левага — беларускі зубр. Праз адчыненыя дзьверы кідалася ў вочы, на зялёным вялічыні двух на тры ярды, сукне, схэматычная карта Беларусі із сталіцай Менскам, назовамі суседніх краінаў і Балтыкам. Гэта давала наведвальніку хуткую арыентацыю, якую частку сьвету ён наведвае, з культурай якое краіны ён пазнаёміцца. Далейшую інфармацыю ён знаходзіў у лістоўках пра Беларусь, а пра яе палітычныя дачыненьні з Расеяй, зь якой Беларусь усё яшчэ часта атаясамляецца, вымоўны вобраз давалі яму рэзалюцыі 12-ай і 13-ай Сэсіі Рады БНР.

Тэмай афармленьня павілёну было народнае мастацтва Беларусі. Дэкарацыя павілёну была багатая й цікавая, усыстэматызаваная й збалянсаваная, нештадзённая й субтэльная. Зайшоўшы ў павілён, на душы рабілася прыемна й радасна. Нацыянальныя эмблемы на франтовай сьцяне гаварылі сьвету, хто мы. Асьветлены рэфлектарам пры ўваходзе правы кут залі, што рабіў уражаньне колернай піраміды, вымоўна гаварыў аб мастацкіх здольнасьцях і ўмельстве беларускага народу. Выяўлялася яно ў багацьці тканінаў, вышывак, разьбы, вырабаў з дрэва й саломкі. Асабліва фасцынавала наведвальнікаў арнамэнтыка з саломкі, вялікая сэлекцыя якое была ня толькі прывезеная зь Беларусі — Жлобіна й Берасьця — але й робленая тут канадыйскім Беларусам з Палесься сп. М. Шустам.

— „Ні ў водным павілёне я нічога падобнага ня бачыла!" — з захапленьнем зазначыла адна з наведвальніц, што ўважна разглядала й распытвалася, як і хто гэта робіць. Сп. М. Шуст праз пару дзён навет дэманстраваў выкладаньне ўзораў саломкай.

Ля піраміды ручных прац із столі зьвісала ратунда беларускіх дзяружак. Далей ішло гняздо кніг: беларускіх ды ў ангельскай і нямецкай мовах пра Беларусь; інфармацыйная літаратура — лістоўкі пра Беларусь у ангельскай і француская мове. Запас лістовак хутка разыходзіўся й яго трэба было ўсьцяж аднаўляць.

Так як некаторых наведвальнікаў асабліва вабіла піраміда ручных прац, гэтак іншых прыцягвала прыемнае для вока, а цікавае для розуму далейшае гняздо. За шклом у асьветленай габлётцы (вітрыне) разложаныя прыгожыя выданьні беларускіх кніг з арнамэнтыкай або ілюстрацыямі беларускага народнага й прафэсійнага мастацтва. Над вітрынай на сіня-белай дзяружцы карта Беларускай Народнай Рэспублікі, над ёй Пагоня, па баках плякаты з выставак: на 450-я ўгодкі Беларускага Друку ў Ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы ды з Выстаўкі Беларускага Народнага Мастацтва на Атаўскім Унівэрсытэце ў часе сёлетняга Тыдня Беларускіх Студыяў. Усё гэтае гняздо, а асабліва карту БНР, у беларускай і француская мовах, некаторыя ўважна студыявалі.

За другой вітрынай, аддзеленай ад першай невялікім дэкаратыўным гняздом, манэкін апрануты ў аўтэнтычны беларускі жаноцкі народны строй, побач ліповыя лапці, хвартушок, паясы.

Цяжкую вітрыну з нацыянальным касьцюмам балянсавала вялікая квадратная кампазыцыя вышывак і ажурных работ зь нітак на фоне чырвонага сукна.



**Князёўна павілёну Менск Ірэна Мышкоўская**

Левая сьцяна залі пераклікалася з правай імпазантным жывым беларускім арнамэнтам, бел-чырвона-белымі дыванамі. Супрацьлеглая сцэне сьцяна біла ў акорды чырваньню палескага й колерамі вясёлкі горадзеньскіх дываноў. Над вакном кухні кампазыцыя зь сюжэтам адпаведных бытавых абразкоў выплеценых з саломкі.

Фактычна, афармленьне павілёну складалася з трох элемэнтаў: 1. вышэй схэматычна прадстаўленага статычнага элемэнту; 2. гукавога. У павілёне праз увесь час, між мастацкімі выступамі на сцэне, чуліся надаваныя праз мікрафон беларускія народныя й лірычныя песьні ў выкананьні хораў Р. Шырмы, Цітовіча й „Песьняроў", ды ўрэшце 3-га кінэтычнага. У павілёне было шмат рухлівае й колернае беларускімі касьцюмамі моладзі. Моладзь абслугоўвала гасьцей за сталамі беларускімі стравамі й напіткамі, ля выставачных гнёздаў патрэбнымі інфармацыямі, моладзь забаўляла гасьцей выступамі на сцэне й запрашала іх да агульных скокаў на залі.

А госьці, хто яны? За 10 дзён іх прайшло праз павілён „МЕНСК" тысячы. Адзін „джэнтэльмэн" падыйшоў да вакна кухні й кажа: „Я, лэйдыз", хачу вам падзякаваць, мне смакавала вашая ежа. Я добра тут чуюся, хоць ня магу пахваліцца беларускім паходжаньнем, я англясас, але я хацеў-бы ўтрымоўваць прыязныя дачыненьні з вашым грамадзтвам і, не чакаючы наступнага году, хацеў-бы часам наведваць ваш асяродак". Маладая дзяўчына хацела-б наведваць „вашы канцэрты". — „Я са Смаленску" — кажа іншая — „але была й у Менску, таму прышла пабачыць „Менск". — „А Смаленск, чый вы думаеце?" — пытае нехта з нашых. — „Ну, цяпер ён рускі, але калісь быў беларускім..."



**Адзін з фрагмэнтаў дэкарацыі залі павілёну Менск**

— адказ. Пара маладажонаў з Мантрэалю на „гонэймун", муж прывёў сваю маладзенькую жонку ў „МЕНСК", бо ейныя бацькі, ці продкі із Слуцку... Пэўне-ж, знаёмства не абыйшлося безь інфармацыі пра збройны Слуцкі Чын ды слуцкія паясы. Настаўніца танцаў пры польскай арганізацыі, сама зь Беласточчыны, цікавіцца беларускімі танцамі й літаратурай аб Беларусі ў ангельскай мове, бо пабеларуску чытаць ня можа. Такіх наведвальнікаў шмат, некаторыя зь іх толькі моўчкі гартаюць кнігі, у гутаркі не ўдаюцца, сядаюць за столікі.

Але вось канфэрэнсье, Юрка Курыла, выбягае на сцэну: „Добры вечар, спадарыні й спадары, вітаем вас у павілёне „МЕНСК!" Гуд ывнінг, лэйдыз энд джэнтэльмэн, вэлкам то „МЕНСК" павілён!.." Ён паведамляе, што праграма будзе складацца зь песень і танцаў; гімнастыкі на жаль ня будзе, бо арганізатарам не ўдалося заангажаваць ведамую беларускую гімнастку Ольгу Корбут з Горадні... „Мусім абыходзіцца сваімі мясцовымі талентамі..." Але пакуль пачаць праграму, Юрка хоча выясьніць непаразуменьне, зь якім яму надарылася сустрэцца... „Вось-жа павілён МЕНСК беларускі, а не расейскі, Беларусы не Расейцы, а Беларусь не Расея. Беларусь на захадзе ад Расеі й мае сваю зусім апрычоную культуру, мову й гісторыю..."

Ларыса й Юрка Курылы звычайна пачынаюць праграму песьняй „Лявоніха" Максіма Багдановіча. Далей танец „Мікіта" ў выкананьчі хлапцоў і дзяўчат зь Нью Джэрзі. О, дзяўчаты й хлапцы зь Нью Джэрзі, мы-ж пра іх яшчэ нічога не сказалі, а яны багаты „ассэт" і арнамэнт павілёну! Іх, колькінаццаць асоб, на першы дзень „Каравану" прывёз проста ў павілён „Менск" сп. Васіль Бойчук. Яны танцуюць, яны працуюць, яны самі забаўляюцца й вучацца...

У міжчасе „Мікіту" хлапцы адшоргалі нагамі, танцоркі ўдоваль на іх пальчыкамі насварыліся. Цяпер дзяўчаты з Таронта або й Нью Джэрзі танцуюць „Вяночкі", малодшыя скачуць „Таўкачыкі", а на заканчэньне „Лявоніха"! Яна завяршаецца сьпевам ня толькі танцораў, але й усяе моладзі, што, выстраіўшыся мурам ля сьцяны, адбіваньнем такту праз увесь час дадавала ахвоты танцорам. „Лявоніха" пераходзіць у вагульныя скокі на залі, бо танцоры віхрам зьлятаюць із сцэны й запрашаюць гасьцей да танцаў.



**Акардыяністы-Музыка Андрэй Рагуля**
**Усе фотаздымкі выкананыя сп. Я. Сурвілам**

А хто-ж музыка?! — Маладзенькі Андрэйка Рагуля, што праз дзесяць дзён зацята іграў на акардыёне. Не дарма што яго спадабалі, асабліва танцоркі, тыя наймаладзейшыя...

Мастацкія праграмы, а як госьці кажуць „энтэртэйнмэнт", адбываюцца амаль што кажную гадзіну.

1-га ліпеня, у вапошні дзень „Каравану", недзе каля гадзіны 10-ай вечара, мастацкая праграма была асаблівай — вясёлай і бурлівай, чуць не з акрабатыкай, з выслаўленьнем белавескіх зуброў, іхняе травы, ды напітку зуброўкі. Чым гучнейшай рабілася моладзь на сцэне, тым болей гледачом перадавалася яе настальгія й сум, што гэта ўжо апошні сёлета выступ у „МЕНСКУ", што „КАРАВАН" ужо канчаецца...

„Мэр" і духовы рухавік МЕНСКУ сп. Лявон Сладкоўскі запрашае на сцэну й прадстаўляе гасьцём Князёўну МЕНСКУ, усіх артыстых і Музыку, моладзь зь Нью Джэрзі, усіх працаўнікоў. Іх шмат—поўная сцэна. Чаркамі апетай зуброўкі Мэр МЕНСКУ частуе іх усіх. Тостам за пасьпяховае заканчэньне сёлетняга й за ўдачу беларускага павілёну налета канчаецца ў „МЕНСКУ" „КАРАВАН 75".

**Раіса Жук-Грышкевіч**

# СЕЛЁТНІ ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

(Заканчэньне з 2-ой бачыны)

## РЭЗАЛЮЦЫІ Й МЭМАРАНДУМЫ

Міжнацыянальныя арганізацыі ў ЗША, Канадзе, Эўропе й Аўстраліі, у склад якіх уваходзяць і Беларусы, з нагоды сёлетняга Тыдня Паняволеных Народаў абвесьцілі адмысловыя рэзалюцыі й мэмарандумы супраць палітыкі „дэтанту" й Канфэрэнцыі ў Гэльсінках. Асабліва грунтоўная й палітычна моцная была Рэзалюцыя Камітэту Тыдня Паняволеных Народаў у Чыкага, якую падпісалі прадстаўнікі самых розных нацыянальнасьцяў. Ад Беларусаў падпісаў Рэзалюцыю сп. Нікодым Жызьнеўскі. Таксама вельмі глыбака палітычна асэнсаваны быў Мэмарандум Рады Эўрапейскай Кантактнай Групы ў Лёндане, у якую ўваходзіць чатырнаццаць нацыянальнасьцяў улучна зь Беларусамі. Нажаль з чыста тэхнічных прычынаў Рэдакцыя „Беларуса" ня мае магчымасьці прывесьці ў якасьці прыкладу хоць аднаго з гэтых дакумэнтаў.

# ГАДАВЫ СХОД БЕЛАРУСКАГА КЛЮБУ Ў СЫДНЭІ

20-га ліпеня сёлета адбыўся гадавы Сход сяброў Беларускага Грамадзка-Культурнага Клюбу ў Сыднэі. Галоўнай мэтай Сходу было прыняць справаздачу ўступаючай управы Клюбу ды выбраць новую ўправу на бягучы год. Сход адчыніў старшыня Клюбу М. Антух. На ягоную прапанову хвілінаю цішыні прысутныя ўшанавалі памяць сяброў Клюбу, што адыйшлі на вечны супачынак. Старшыня падзякаваў сябром управы, жанчынам-гаспадыням ды ўсім сябром Клюбу, што ўлажылі шмат працы пры арганізацыі нацыянальных імпрэзаў ды ўтрыманьні будынку Клюбу.

Справаздачу зь дзейнасьці Клюбу прачытаў сакратар М. Лужынскі. Ён паведаміў, што на сяньняшні дзень Клюб налічвае 183 сяброў. У сваёй працы ўправа Клюбу мела няўдачы й дасягненьні. Не зважаючы на шмат стараньняў, не ўдалося зарганізаваць хору, нядзельнае школы ды іншых карысных праектаў управы.

На працягу году ў Клюбе былі зладжаныя: 1. урачыстыя сьвяткаваньні ўгодкаў абвешчаньня Дзяржаўнае Незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі, урачыстае сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкае Абароны й 30-я ўгодкі Беларускае Краёвае Абароны; II. былі зладжаныя памінкі із супольным абедам па сьв. пам. А. Чурылу, спадчына якога была фундамантам для зайснаваньня Клюбу; III. былі прачытаныя розныя даклады й лекцыі. Д-р Я. Малецкі меў дзьве лекцыі на мэдычныя тэмы ды вельмі цікавы рэфэрат пра сучасную Беларусь — ейныя натуральныя багацьці й індустрыю. Рэфэрат выклікаў ажыўленую дыскусію. Архітэкт С. Каранеўскі пры помачы ілюстрацыі шматлікіх прыкладаў із сваіх падарожжаў паказаў жыльлёвае будаўніцтва ад прымітыўнага ў Новай Гвінэі праз Грэцыю, Італію, Заходнюю Эўропу да амэрыканскіх небаскробаў. Вялікую частку слухачоў складала моладзь. Сп. А. Качан расказаў пра Вэтэранскі Зьезд у Лёндане ды падзяліўся ўражаньнямі із свайго падарожжа па сьвеце, багата ілюструючы фотаздымкамі, што так прыпаміналі нам родныя краявіды з бацькаўшчыны. Сп-ня А. Каранеўская мела даклад пра беларускую жанчыну-маці; IV. было зладжана сем вечарынаў і баляў.

(Заканчэньне на 4-й бачыне)

## СПРАВА ВЫВУЧЭНЬНЯ ЭТНІЧНАЕ СПАДЧЫНЫ У ШКОЛАХ ЗША

14 ліпеня сёлета др. В. Кіпель, сп. П. Фенчак і сп-ня М. Гіза, дзякуючы захадам Асацыяцыі Вывучэньня Нацыянальнасьцяў Усходняе Эўропы, мелі магчымасьць выступіць у Вашынгтоне перад камісіяй Міністэрства асьветы ЗША (Office of Education) і Нацыянальнай Асацыяцыяй Асьветы (NEA) з рэфэратамі пра стан навучаньня ў амэрыканскіх школах пра нацыянальныя групы Амэрыкі.

Кажны з рэфэрэнтаў, апрача аналізу й плянаў асьветнае справы, падаў сваю біяграфію, прафэсійныя й навуковыя сувязі, а таксама схарактарызаваў праблемы свае нацыянальнае групы. Др. В. Кіпель выступаў ад імя Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ды Ньюёркаўскае Гарадзкое Бібліятэкі, сп. П. Фенчак прадстаўляў школьную сыстэму акругі Балтымор і Асацыяцыю Украінскіх Навукоўцаў, а сп-ня М. Гіза — школьную акругу г. Балтымору й Таварыства Вывучэньня Польскае Спадчыны.

Сп. П. Фенчак, ведамы настаўнік і адміністратар у школьнай сыстэме штату Мэрылэнд, зрэфэраваў праблему вывучаньня нацыянальнае (этнічнае) спадчыны Амэрыкі ў сярэдніх школах. Дакладчык зазначыў, што хоць стараньні ў гэтай справе робіцца ад даўжэйшага часу, асаблівага зруху, нажаль, ня відаць, не зважаючы на тое, што ёсьць дастаткова матарыялу, каб знаёміць амэрыканскую школьную моладзь з культурнай спадчынай розных этнічных групаў Амэрыкі. Зрабіць гэта можна будзе адно тады, даводзіў сп. Фенчак, калі ў Вашынгтоне будуць створаныя адпаведныя навучальныя праграмы ды пашыраньня ў адукацыйнай сыстэме Задзіночаных Штатаў.

Др. В. Кіпель зрабіў аналіз сеткі школьных бібліятэкаў штату Нью Джэрзі ў дачыненьні да падбору матарыялаў пра нацыянальныя групы ЗША ды падручнікаў рэгулярных амэрыканскіх школаў і школаў сыботня-нядзельных паасобных этнічных групаў. В. Кіпель зазначыў, што канечна трэба забясьпечыць бібліятэкі адпаведным матарыялам ды што шмат матарыялу з падручнікаў сыботня-нядзельных школаў этнічных групаў павінна быць улучана ў падручнікі амэрыканскіх рэгулярных школаў. Др. Кіпель таксама прадставіў плян выданьня цэнтральнымі органамі асьветы сэрыі падручнікаў, якія сталіся-б стандартнымі ў насьвятленьні пытаньня этнічных групаў ды былі дапасаваныя да веку вучняў.

Сп-ня М. Гіза, настаўніца пачаткавых школаў г. Балтымору з 22-гадовым стажам, праанализавала магчымасьці ўвядзеньня праграмы вывучэньня этнічнае спадчыны ў пачаткавых школах, што, дарэчы, ужо робіцца ў некаторых школах Балтымору.

Свае рэфэраты дакладчыкі ілюстравалі наглядным матарыяламі, паказалі, якія падручнікі й дапаможнікі, апрацаваныя ў этнічных асяродках, могуць ужывацца ў амэрыканскіх школах ды павінны быць выкарыстаныя пры складаньні навучальных праграмаў Дэпартамэнту Асьветы ЗША.

Нарада праходзіла пад старшынствам праф. Дональда Шэра з фэдэральнага Дэпартаманту Асьветы.

В. Кіпель

## ВЯЛІКІ ПАДАРАК ДЛЯ ЦАРКВЫ



**Васіль і Марыя Прыстаўкі — ахвярадаўцы Сьв. Евангельля**

Пад гэткім загалоўкам быў зьмешчаны артыкулік сп. К. у № 218 „Беларуса". Ня буду паўтараць таго, што ўжо напісана, але да гэнага артыкулу і я хачу дадаць пару словаў.

Сп-ва Прыстаўкі Васіль і Марыя былі вельмі багатымі гаспадарамі яшчэ на Беларусі. Аднак, уцяклі яны ад бальшавікоў голымі й босымі, як кажны з нас. Сваёй сумленнай працаю ў Канадзе яны здабылі тут маёмасьць, хоць яны ўжо ў гадох, ды карыстаюцца ёю на старасьць. Васіль і Марыя цешацца вялікай павагаю ды аўтарытэтам ня толькі сярод Беларусаў, але й сярод чужынцаў. Яны паходзяць зь беларускага сялянства, якое было цьвёрдым і здаровым пнём народу. Яны й на эміграцыі засталіся гэткімі самымі. Заўсёды адгукаліся на патрэбы грамадзкія, асабліва Царквы, давалі заўсёды больш за іншых.

Апрача згаданых у папярэднім артыкуле ахвяраў і гойных грашовых падаркаў, С-ва Прыстаўкі падарылі кадзіла для Парахвіі пару год таму. Яны ня раз прынялі нанач і накармілі падарожнага беларускага сьвятара, які часта прыяжджае ў Садбуры. Сп-ва Прыстаўкі ніколі не хваліліся й ня хваляцца, а ёсьць чым. Яны складаюць сваю ахвяру з прыемнасьцяй і задавальненьнем, а не з абавязку ці для паказу.

**Хвала Вам, Васіль і Марыя!**

Грыбок

СЬВЯТОЙ  ПАМЯЦІ

### АНАСТАСІЯ МАШЧОНСКАЯ

**народжачая 23 сьнежня 1887 году ў Навагарадзкім павеце, па вайне жыла ў Канадзе, адыйшла на вечны супачынак 16 сакавіка 1975 году й пахаваная на Магільніку ў Бурлінгтоне, Онтарыё, пра што з глыбокім сумам паведамляюць**

**Муж Павал Машчонскі, трох сыноў зь сем'ямі, чатыры ўнукі й два праўнукі, а так-жа знаёмыя.**

### ДАЛЕЙШЫЯ АХВЯРЫ НА ФОНД БЕЛАРУСКІХ ПАДРУЧНІКАЎ

Кіраўніцтва Фонду пры Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку дзякуе др. В. Тумашу за пераказаньня на Фонд $ 100.00. Разам з сумамі папярэднімі на конта Фонду сабрана $ 2712.71.

СЬВЯТОЙ  ПАМЯЦІ

### МАТУШКА ФІЛЯМЭНА ВОЙТАНКА

**(Дзявоцкае прозьвішча Рахавецкая)**

**нарадзілася 20 сакавіка 1881 году ў хвальварку Мачульна Навагрудзкага павету, адыйшла на той сьвет, на 95-ым годзе жыцьця, 22-га жніўня 1975 і пахаваная 25-га жніўня 1975 году на Беларускім Магільніку ў Іст Брансьвік, Нью Джэрзі, БАПЦарквы Жыровіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, пра што з глыбокім сумам паведамляюць:**

**Сын Мікалай Войтанка з Жонкай,**
**Дачка Галіна з Мужам,**
**Нявестка Матушка Марыя Войтанка зь Дзецьмі,**
**Пяцёх Унукаў і Сямёх Праўнукаў.**

**ВЕЧНАЯ ЁЙ ПАМЯЦЬ!**

## МАТУШКА ФІЛЯМЭНА ВОЙТАНКА



Сьв. пам. Матушка Філямэна Войтанка на працягу свайго даўгога жыцьця адыйграла важную ролю ў беларускім царкоўным і нацыянальным руху ад таго часу, калі перад Першай Сусьветнай вайной сустрэлася з настаўнікам народнае школы ў Карыцы над рэчкай Ятранкай. Далей прыводзім у скарачэньні запісаныя на магнітафонную стужку аўтэнтычныя словы самой Матушкі Філямэны Войтанкі ў часе сямейнага сьвяткаваньня ейных 94-ых угодкаў 24 лістапада летась:

„На імя яму было Сьцяпан Войтанка... Першы раз мы спаткаліся, як мая сяброўка... прывяла мяне ў школу. Сьцяпан... быў высокі, прыстойны, мілавідны, меў добры мілагучны голас ды быў ціхі й ветлівы, а галоўнае, што ніколі ня любіў піць і курыць. Дык я запраўды ім зацікавілася й апякавалася ім блізу году, пакуль не пажаніліся. Шлюб бралі ў Наваельні.

„Хутка з Карыцы Сьцяпана пераводзяць у Бярэзкі каля Зэльвы над Зальвянкай. Там, апрача школы, Сьцяпан дастаў заданьне рэгента ў царкоўным хоры. Прыходзіць Першая Сусьветная вайна. Год 1914. Сьцяпана мабілізуюць у армію. Я застаюся дома адна з двума малымі хлапчукамі Віктарам і Мікалаем. Хутка выяжджаю ў бежанства на ўсход, пад Менск. Там уладжваюся на працу — кірую прытулкам ля Барысава для дзяцей ваенных уцякачоў Горадзеншчыны, а па вайне — нейкі час аддзелам Амэрыканскае Помачы для дзяцей у пляне місіі Гувэра ў Запольлі на Навагрудчыне.

„У 1920 годзе Горадзенскі Япіскап рукапалагае Сьцяпана ў сан сьвяшчэніка і ад гэтага часу я жыву з а. Сьцяпанам па царкоўных прыходах: сьпярша ў Мяжэвічах, Пераваладоцы, пасьля ў Дварцы Слонімскага павету, у Жалезьніцы каля Баранавіч, у Ястраблі і ў Марозавічах. У 1937 годзе еду ў родную Мачульню й працую там на гаспадарцы.

„У 1943 годзе прыходзіцца пакінуць Мачульню і ўцякаць ад партызанаў у Слонім. У 1944 годзе, 4-га ліпеня пакідаю родную Беларусь і еду зь сям'ёй на захад, у Нямеччыну й пасьля капітуляцыі асяляемся ў Зальгаў на Францускай акупацыйнай зоне Нямеччыны.

„Тут у Нямеччыне 5-га чырвеня 1948 году ў Канстанцы аднаўляецца аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы пры помачы а. Сьцяпана й сына д-ра Віктара. І я мушу сказаць, што ў гэтым ім памагала ўсімі сваімі сіламі. Часта змучаная й запрацаваная, але заўсёды езьдзіла з а. Сьцяпанам на Божыя Службы ў Тубінгэн. Старалася яму памагаць, як магла.

„У 1950 годзе выяжджаю зь сям'ёю ў Амэрыку, дзе я пасяляюся на стала сьпярша ў Гайлэнд Парку штату Нью Джэрзі, а апошнім часам у Самэрсэт штату Нью Джэрзі. Тут у Амэрыцы ўвесь час я старалася прымаць актыўны ўдзел як у грамадзкіх, гэтак і ў царкоўных пачынаньнях. Шмат памагала а. Сьцяпану пры заснаваньні парахвіі ў Нью Брансьвіку. У 1968 годзе памірае мой муж Мітрафорны Пратаярэй Сьцяпан, а ў 1972 годзе адыходзіць таксама ў вечнасьць мой старшы сын д-р а. Віктар. Я моцна перажыла й перажываю гэтыя вялікія страты. У мяне заўсёды ляжалі й ляжаць на сэрцы справы нашай сьвятой БАПЦ ды справы нашай парахвіі ў Нью Брансьвіку."

У дапаўненьне да прыведзеных аўтэнтычных словаў Матушкі Філямэны Войтанкі, неабходна падчыркнуць з асаблівым націскам, што роля Нябожчыцы ў беларускім царкоўным і часткава грамадзкім беларускім жыцьці была куды большая, чымся сказана ў прыведзеных урыўках ейнае аўтабіяграфіі.

Усе тыя, хто блізка ведаў Нябожчыцу, аднагалосна думкі, што гэта яна натхняла свайго мужа а. Сьцяпана й сына д-ра Віктара ўзяць на сябе ініцыятыву й галоўную ролю ў вадноўленьні беларускай царкоўнай аўтакефаліі — падзеі вялікай гістарычнай важнасьці. Узноўжа ня бязь ейнага ўплыву д-р а. Віктар настойліва ўводзячы, заміж царкоўнаслявянскай, беларускую мову ў царкоўнай службе, адыграў таксама важную гістарычную ролю. Ейны малодшы сын Мікалай Войтанка — таксама выдатны беларускі працаўнік у галіне царкоўнай і нацыянальна-грамадзкай, як адзін з актывістых у беларускай калёніі ў Нью Джэрзі. Ня будзе перабольшаньня, калі скажам, што сьв. пам. Матушка была як бышам духовым патрыярхам у сям'і Войтанкаў.

Дык хай-жа амэрыканская зямля будзе Ёй пухам, а сьветлая памяць Ейная застанецца між жывымі!

Ст. Станкевіч

## У БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ Ў ВІКТОРЫІ

У нядзелю 24 жніўня сёлета ў Беларускім Доме ў Мэльбурне адбылся Агульны Справаздачна-Перавыбарны Сход Беларускага Цэнтральнага Камітэту ў Вікторыі. Сход адчыніў старшыня ўступаючай Управы, прапануючы прысутным праект парадку дня. За старшыню Сходу быў выбраны сп. Ул. Сідлярэвіч, за сакратароў былі пакліканы сп. сп. А. Калодка й М. Нікан. Справаздачу зь дзейнасьці Управы Камітэту на працягу двух апошніх год ейнае кадэнцыі зрабіў старшыня ўступаючай Управы. Ён сьціпла зазначыў, што за гэты пэрыяд часу зрабілася ня шмат ды што ня ўсе сябры Камітэту былі актыўнымі. Бязумоўна, цяжка знайсьці такую беларускую арганізацыю, дзе ўсе сябры былі-б актыўнымі, але, слухаючы далей справаздачу, неабходна было прыйсьці да высновы, што ўзапраўды Камітэт зрабіў вельмі шмат, калі браць увагу на нашыя абставіны й магчымасьці. Ня было бадай такой дзялянкі грамадзкага жыцьця, у якойбы ня прымалі ўдзелу Управа й сябры Камітэту. Хоць пра гэта амаль заўсёды былі карэспандэнцыі ў газэце „Беларус", аднак да рэчы будзе яшчэ раз коратка пералічыць некаторыя формы й праявы дзейнасьці Камітэту.

Удзел у дзейнасьці Рады Паняволеных Народаў, удзел у міжнацыянальных дэманстрацыях, маніфэстацыях і спатканьнях, нацыянальныя сьвяткаваньні, рэфэраты, арганізаваньне маёвак і вечарынаў, вядзеньне Беларускай Школы, (падзяка за гэта настаўнікам сп. сп. Гладкаму й Нікану) — вось некаторыя толькі праявы дзейнасьці Камітэту.

На вялікі жаль, ня ўсё, запляванае два гады таму, было ўправай выканана, але за гэта нельга вінаваціць ані старшыню, ані ўправу. Ня была зарганізаваная дапамаговая каса, а гэта з прычыны адсутнасьці кампэтэнтных асобаў, якія яе зарганізавалі-б і вялі-б. Жаноцкая арганізацыя пры Камітэце ня ёсьць шматколькасная й моцная, але прынамся частка з тых, што да яе належаць, укладае шмат ахвярнай працы. Тутэйшая беларуская моладзь, за малымі толькі выняткамі, ня прыймае актыўнага ўдзелу ў нашай грамадзкай працы.

Канчаючы вельмі дакладную й рачовую справаздачу, старшыня заклікаў прысутных да большай актыўнасьці наагул ды да шырэйшага ўдзелу ў розных міжнацыянальных спатканьнях, дзе мы, Беларусы, можам папулярызаваць нашую беларускую справу ды, асабліва малодшыя з нас, могуць здабыць шмат дасьветчаньня, гэтак патрэбнага ў грамадзкай дзейнасьці. Кароткую фінансавую справаздачу зрабіў уступаючы скарбнік сп. П. Мікуліч, пасьля чаго старшыня Рэвізійнае Камісіі сп-ня Вера Шэйпак прачытала справаздачу Камісіі з прапановай прызнаць уступаючай Управе абсалютарыюм з падзякай, што й было Сходам зроблена.

У новую Ўправу было аднагалосна выбрана 13 чалавек, у Рэвізійную Камісію — 3. Падзел функцыяў абодвых органаў Камітэту наступіць пазьней. Трэба адмыслова адзначыць вельмі паважны прабег усяго Сходу, зацікаўленьне прысутных у дзейнасьці Ўправы, што праявілася ў паважных дыскусіях ды ў адсутнасьці асабістых анімозіяў сярод сяброў Камітэту. Пасьля афіцыйнага зачыненьня Сходу адбылася нязвычайна ўдалы сяброўскі вечар, які працягваўся даўгія яшчэ гадзіны... Песьням, дэклямацыям, гутаркам, здавалася, ня будзе канца. Новай Управе жадаем плённае працы!

А. К-а

## ГАДАВЫ СХОД БЕЛАРУСКАГА КЛЮБУ Ў СЫДНЭІ

(Заканчэньне з 3-й бачыны)

Фінансавую справаздачу зрабіў скарбнік Клюбу В. Плахоцкі. Прыбыткі Клюбу — $ 7,833.00, выдаткі — $ 7,759.59. Сп. М. Зуй, як старшыня Рэвізійнае Камісіі, прачытаў ейную справаздачу. Ён зазначыў, што заўважаецца некаторая недасведчанасьць у вядзеньні касы, але кнігі ўсе ў парадку. Завязалася гарачая дыскусія, былі некаторыя не на месцы заўвагі. Аднак Сход справаздачу прыняў.

За старшыню новае ўправы Клюбу, якая складаецца з 12-ці асобаў, ізноў быў выбраны сп. М. Антух. Бальшыня старых сяброў управы была перавыбраная ў новую ўправу Клюбу. Застаецца пажадаць новай управе Клюбу плённае працы, а ўсім сябром не шкадаваць свайго часу й добрае волі ды па магчымасьці памагаць управе ў ейнай дзейнасьці.

А. К.

### АХВЯРА НА НАВУКОВАЕ ВЫДАВЕЦТВА

Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью Ёрку дзякуе Палк. Ю. Жывіцы за ахвяраваньня $ 100.00 на навуковыя выданьні Інстытуту.

### ПАДЗЯКА

Як упаўнаважаны Фундацыяй імя П. Крэчэўскага для распрадажы Віцьбічавае кнігі „Мы дойдзем!", гэтым вельмі дзякую Беларусам Сыднэю й аколіцаў у Аўстраліі за іхныя ахвяры, а асабліва сп-ру М. Лужынскаму за ягоныя стараньні, і паведамляю, што атрымаў суму 182 канадыйскіх даляраў на выданьне кнігі Юркі Віцьбіча. За ахвяраваныя грошы ўжо высланая адпаведная колькасьць кнігаў сп. А. Качану, які мае раздаць іх і якому гэтта таксама дзякую за ягоную ахвярнасьць і помач.

**К. Акула**
**Таронта, 1 ліпеня 1975 г.**

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Памёр 6 ліпеня сёлета ў веку 59 гадоў Лаўрэн Абэцэдарскі,** прафэсар, акадэмік і партыйны сторож у беларускай савецкай гістарыяграфіі, аўтар шырака рэклямаванае партыйнай прапагандавай кніжыцы „У сьвятле неабвержных фактаў“, скіраванай супраць беларускіх нацыянальных дасьледнікаў гісторыі Беларусі. Нэкралёг па Абэцэдарскім апублікаваны ў газ. „Зьвязда“ й „Советская Белоруссия“ за 8. VII. 1975.

**Друкуюцца новыя выданьні.** У друк здадзеная кніга 13-я ЗАПІСАЎ, навуковага зборніка Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Рыхтуюцца ўжо матар'ялы для кнігі 14-е. Пасоўваецца таксама наперад набор вялікае кнігі паэзіі **Натальлі Арсеньневай** „Між берагамі“. З друку мае яна выйсьці ў будучым годзе. У Канадзе пачаты ўжо набор другое часткі ангельска-беларускага падручніка беларускае мовы **В. Пашкевіч,** які выдае Выдавецкі камітэт Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.

**Рысунак тушам „Сядзячыя дзеці“ мастачкі Івонкі Шыманец-Сурвілы** быў выбраны спасярод больш за дзьве тысячы абразоў у ліку 246 абразоў, што склалі першую мастацкую выстаўку ў сталіцы Канады Атаве. Выстаўка адбылася ў атаўскім выставачным цэнтры ў Лянсдаўскім парку й трывала ад 15 травеня да 28 чырвеня сёлета.

**Др. Аўген Вярбіцкі** узяў удзел у двух міжнародных канфэрэнцыях: Вэрне ў Швэйцарыі ад 31 жніўня да 6 верасьня сёлета і ў Рыё-д-Жанэйра ў Бразыліі ад 15 да 24 верасьня. На канфэрэнцыях др. Вярбіцкі чытаў рэфэраты ў галіне харчовае прамысловасьці. На канфэрэнцыю ў Бразылію др. А. Вярбіцкі быў запрошаны Арганізацыяй Задзіночаных Нацыяў.

**У часапісе Economic Geology vol. 70, 1975,** надрукаваны др. В. Кіпелем агляд савецкае геалёгіі за 1972 год.

**Др. В. Кіпель і інж. В. Мельяновіч** увайшлі ў рэдакцыю часапісу ЭТНІК Амэрыкан Ньюс, як прадстаўнікі беларускае нацыянальнасьці. Часапіс выдаецца ў гор. Пітсбургу.

**Пераклад вершу Янкі Купалы „Хрыстос Уваскрос“** зроблены др. Тыне Дэбэляком у славянскую мову, выдрукаваны ў славянскім часапісе „Весьнік“ № 4-6, 1975, б. 50), органе славянскіх антыкамуністычных вэтэранаў, што выходзіць у Аргентыне ў Буэнос Айрэсе.

**Даклад пра сучасных маладых беларускіх паэтаў на канфэрэнцыі ў Аксфордзе ў Ангельшчыне** (29-30 верасьня) прачытала маладая брытанская вучоная Шырын Акінэр, скарыстаўшы ў вялікай меры матар'ялы Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

**Пра місію БССР у АЗН** зьмясьціла рэдакцыйную нататку газэта „Уол Стрыт Джорнал“ (15. IX. 75), пад загалоўкам „Беларуская бессаромлівасьць“ (Byelorussian Brass). У нататцы ход пра тое, як Барыс Кудраўцаў, прадстаўнік БССР у Радзе Бясьпекі АЗН („мы ніколі ня былі пэўныя, якая місія БССР у АЗН апрача таго, што яна служыць дыпляматычнай заслонай“, піша газэта) галасаваў супраць дапушчэньня Паўдзённае Карэі ў АЗН на той аснове, што паўдзённа-карэйскі рэжым „марыянэтачны“ й нікога не прадстаўляе.

**Брашура „Манумэнтальны сьверб“ (выданьне газэты „Голас Радзімы“, Менск, 1975, 62 бб.)** становіць зборнік (перадрук з газэты „Голас Радзімы“) лаянкі й пашквіляў Уладзімера Бягуна на г. зв. „бубернацаў“, на пашырэньне чаго акупанты Беларусі ўсьцяж не шкадуюць грошай.

**„Актыўна дзейнічаць царкоўнікам і сэктанцкім фанатыкам“ сярод моладзі Беларусі дазваляюць „пасыўнасьць, абыякавасьць, а часам і беспрынцыповасьць нашых кадраў і актыву“,** заявіў на пленуме ЦК Камсамолу Беларускі першы сакратар ЦК ЛКСМБ В. Радомскі, як відаць зь ягонага дакладу, зьмешчанага ў газэце „Чырвоная зьмена“ за 24. VI. 1975 г.

**„Здрадніцкая дзейнасьць беларускіх буржуазных нацыяналістых“** — адна з тэмаў новае кнігі Г. С. Марцуля, „Торжество ленинской национальной политики и ее буржуазные фальсификаторы“, што выйшла сёлета ў выдавецтве „Беларусь“ у Менску. Рэцэнзуючы гэтую кнігу, газэта „Советская Белоруссия“ (24. VI. 75) піша, што сучасная дзейнасьць ідэялягічных ворагаў савецкае ўлады адзначаецца „адыходам ад прымітыўнага антыкамунізму й ужываньнем вытанчаных мэтадаў ідэялягічных дывэрсіяў, прытарнаваньнем да новых абставінаў“.

**Артыкул пра манэты 18-19-га стагодзьдзяў,** знойдзеныя на тэрыторыі ўсходняе Беларусі (аўтар В. Рабцэвіч), апублікаваны ў пятым леташнім нумары зборніка „Нумізматыка і сфрагістыка“, выдадзенага парасейску ў Кіеве Інстытутам археалёгіі АН УССР у 1974 г.

# ГЭРАІНЯ, ДЗЕ ТЫ?

**(НІБЫ ФЭЛЬЕТОН)**

Трыццаць гадоў, як закончылася Другая сусьветная вайна. За гэты час, здаецца, усіх гэрояў можна занатаваць, нагародзіць і праславіць. Але гэта толькі здаецца. Дзесьці ў Лоеўскім раёне на Беларусі, а можа й далей ад гэтага раёну, згубілася яшчэ адна гэраіня . . .

Пра яе ўспомніў праз трыццаць чатыры гадў Грузін Г. Джапарыдзе, таксама гэрой, нагароджаны ордэнам „Чырвонай зоркі“ за ўратаваньне палкавога сьцягу. Знаходзячыся ў вадным з санаторыяў Крыму, Джапарыдзе пазнаёміўся зь Беларусам з гарадка Лоеў — Уладыславам Галаем і расказаў яму гісторыю, падобную да амэрыканскіх „Мішэн імпосібл“ („Няверагодная місія“). Галай, вярнуўшыся із санаторыя, спаткаўся з карэспандэнтам газэты „Советская Белоруссия“, што выдаецца ў Менску на расейскай мове для дэнацыяналізацыі Беларусаў, — з Юрыям Сапажковам і пахваліўся: „А ведаеце, я атрымаў цудоўны падарак з Грузіі — чурчхелы . . .“

З чым ядуць гэтыя „чурчхелы“, я ня ведаю, але пасьля іх Галай расказаў Сапажкову тое, што пачуў ад Джапарыдзе. Вось што ён расказаў.

У першыя дні вайны групоўка, у якой служыў Джапарыдзе, трапіла ў акружэньне і была разьбіта. Джапарыдзе, схаваўшы палкавы сьцяг пад „гімнасьцёрку“, бадзяўся па лясох Беларусі да позьняе восені, пакуль яго не злавілі Немцы. Пасьля „гэндэ гох“ Немцы спыталі: „Партызан?“ Джапарыдзе адказаў, што не партызан, а жыве ў вёсцы... Ён кіўнуў на вёску, што знаходзілася недалёка ад лесу. Назву вёскі ён ня ведаў. Ды Немцы і ня пыталі, а толькі сказалі: „Вядзі ў сваю хату. Калі маніш, там і расстраляем“. І Джапарыдзе павёў. Завёў у трэйцюю хату ад краю. Там была маладая жанчына. „Вось гэта мая сястра“, — сказаў, ня міргнуўшы вокам, Джапарыдзе. Жанчына трапілася кемлівая і пасьля сполаху і разгубленасьці кінулася на шыю „брату“ і загаласіла: „Што вы зь ім хочаце рабіць? Гэта мой брат, брат, разумееце?! . . .

І Немцы „зразумелі“ . . . „Зразумелі“ беларускую мову і пайшлі, пакінуўшы „гэрояў“ цэлымі й шчасьлівымі . . .

Цікавая гісторыя, хіба не? Але, як сказаў паэта, сьвежае паданьне, але верыцца зь цяжкасьцю. І вось чаму. Немцы, можа, і здольныя на „эфэктны жэст“, але ня ў часе вайны. Аб партызанах у першыя дні вайны, а навет і месяцы, яны нічога ня ведалі і, бачучы перад сабой чалавека ў вайсковай форме, ведалі, хто ён, як ведалі і тое, што зь ім трэба рабіць: зьнішчыць, а ў лепшым выпадку, узяць у палон. Не такія Немцы былі гуманістыя, каб ісьці ў вёску наводзіць спраўкі пра асобу Джапарыдзе. Тым болей, што ў вёсцы іх магла чакаць засада, а галоўнае, калі-б Немцы заняліся гэтым, ім патрэбна было-б для гэтай „гуманістыкі“ адцягнуць із пад Масквы некалькі арміяў, таму што такіх, як Джапарыдзе, бадзялася па лясох вельмі шмат.

Але, дапусьцім такую анамалію: Немцы пайшлі ў вёску. Убачыўшы маладую Беларуску, як большасьць Беларусак, бялявую, і, параўняўшы з „чарнабровым, чарнавокім“, ды ў дадатак, гарбаносым Грузінам, які дурань мог паверыць, што гэта брат і сястра. Ды, калі-б навет Немцы і паверылі, што з гэтага? Хто гэтая „сястра“ для іх: Ева Браўн, ці Марыка Рэк? . . .

Ня верыцца штосьці і ў тое, што Немцы не абшукалі Джапарыдзе. А палкавы сьцяг ня хусьцінка, у кішэню не схаваеш.

Ды на якой мове яны гутарылі: нямецкай, беларускай, ці грузінскай? . . . Карэспандэнт „Советской Белоруссии“ Сапажкоў над гэтымі пытаньнямі не задумоўваўся, таму што ў часе вайны ён, напэўна, пад стол хадзіў пешкі. Так як Джапарыдзе забыў і імя, і прозьвішча свае „сястры“, а таксама і назву вёскі, а толькі памятае „трэйцюю хату ад краю“ і Лоеўскі раён. Сапажкоў узяўся за пошукі мітычнай гэраіні. Ён напісаў зацемку ў „Советскую Белоруссию“ пад назваю „Грузінскія чурчхелы“, спадзяючыся, што гэраіня прачытае гэтую зацемку, дагадаецца, што гэта пішацца пра яе „подзьвіг“ і адгукнецца. Але гэраіня не адгукнулася. Зацемку „Грузінскія чурчхелы“ перадрукавала газэта „Правда“ пад назваю „І назвала яго братам“. Але і пасьля такога аўтарытэтнага сыгналу гэраіня не адгукнулася. Нечакана Сапажкоў атрымаў ліст з г. Паўлава. Пісаў нехта І. Шабаршын, што разьведчыка Андрэя Яршова, калі той уцёк із палону, хавала ў вёсцы Перадзелка Лоеўскага раёну Марыя Халуп. Сапажкоў кінуў усе справы і падаўся ў Перадзелку. Але там яго чакала няпрыемнасьць. Марыя Халуп сказала, што яна шмат каго хавала, быў навет адзін Азэрбайджанец, але Грузіна ня было. На запытаньне пра Марыю Халуп, Джапарыдзе адказаў у лісьце Сапажкову, што гэта „Хвядот, але ня тот“, хаця і яна зьяўляецца сястрой для тых, каго ўратавала. Пасьля гэтага Сапажкоў піша новую зацемку ў „Советскую Белоруссию“ — „Сястра“. Усё пра тое. І усё дарэмна. І вось на дапамогу Сапажкову прышоў расейскі паэта Яўген Далматоўскі. Ён пачуў сыгнал „Праўды“ і напісаў верш „Помнять людзі“, у якім зрыфмаваў апавяданьне Джапарыдзе, але із значнай карэктай: чырвонаармейца ён замяніў партызанскім разаьведчыкам:

„На зямлі шматпакутнай беларускай
У рукі ворагу разьведчык наш папаўся“.

І разьведчык вядзе Немцаў ня ў трэйцюю хату, як казаў Джапарыдзе, а ў другую . . .

Я кажуць, дапамог Сапажкову, як кашаль хваробе.

На словы Далматоўскага напісаў мэлёдыю кампазытар Оскар Фельцман. Ну, і пайшла грымець песьня ад калгасу да калгасу . . . Але, гэраіні, мабыць, не да песьняў, на канцэрты яна ня ходзіць, а таму ізноў не адгукнулася . . .

Тады Сапажкоў надрукаваў артыкул „У пошукі ўключылася песьня“ ў „Голасе радзімы“ (№ 17 за травень 1975 г.), што рассылаецца зь Менску беларускім эмігрантам.

Цяпер, я думаю, Сапажкоў узяў правільны кірунак у сваіх пошуках. Чым, як кажуць, чорт ня шуціць? Магчыма, гэраіня, убачыўшы як „цар“ Мікіта выкідваў „Вялікага Грузіна“ із маўзалея, спалохалася свайго „антынароднага паступку“ і, каб ня трапіць на цаліну Казахстану за ўратаваньне Грузіна, пайшла па сьлядох Сьвятланы Алілуевай ...

Тут і мне ня грэх будзе дапамагчы Сапажкову крыкнуць на ўсю Амэрыку:

Гэраіня, мая зямлячка, із Лоеўскага раёну, із трэйцяе, ці другое хаты ад краю, — дзе ты? . . .

**Я. Ляшчына**

## АД РЭДАКЦЫІ

**Дзеля таго, што на паперы, на якой апошнім часам друкавалася газэта, дрэнна выходзяць клішы фотаздымкаў, Рэдакцыя ўважала за неабходнае, пачынаючы ад гэтага нумару, друкаваць газэту на лепшай і грубейшай паперы, не зважаючы на павялічэньне коштаў паштовае перасылкі лётніцкай поштай.**

# УВАГА! ВЕЛЬМІ ВАЖНА!

У дадатак і дапаўненьне да выдадзеных у 1973 годзе ў Менску „Выбраных Твораў у двух тамох“ Максіма Гарэцкага, у якія з цэнзурных прычынаў не ўвайшлі найлепшыя творы пісьменьніка, толькішто выйшаў з друку ў Нью Ёрку ў выдавецтве газэты „БЕЛАРУС“

## 3-ЦІ ТОМ “ВЫБРАНЫХ ТВОРАЎ” МАКСІМА ГАРЭЦКАГА,

у якім зьмешчаныя выкінутыя савецкай цэнзурай творы.
**Кніга мае 160 бачынаў друку й каштуе ўсяго 5 даляраў**
**Індывідуальна выпісваючы поштай $ 5.50.**

Шырэй пра гэтае выданьне чытач знойдзе ў артыкуле „Трэйці том „Выбраных твораў“ Максіма Гарэцкага“ на 2-ой бачыне ў № 219 „Беларуса“.

Купляць і выпісваць паводля аднаго з трох наступных адрысоў:
А. Беспасярэдня з Рэдакцыі „Беларуса“ ў Нью Ёрку.
Б. Ад Прадстаўнікоў газэты „Беларус“ у ЗША і ў іншых краёх Вольнага Сьвету.

В. Вылучна для Беларусаў Канады з Клюбу „Пагоня“:
(Byelorussians Publishers' & Arts Club "PAHONIA"
524 St. Clarens Ave., Toronto, Ont. M6H 3W7, Canada).

З Клюбу „Пагоня“, на жаданьне, могуць выпісваць і Беларусы з усіх іншых беларускіх асяродкаў у Вольным Сьвеце.



# СПАРТОВАЯ СУСТРЭЧА Ў БЭЛЕР-МЕНСКУ

Сёлетняя сустрэча была праведзеная 2-га й 3-га жнівеня. Змаганьні адбыліся ў наступных відах спорту: скаканьне ўдаль, скаканьне ўгору, плаваньне, кіданьне кулі, валейбол. Удзельнікі былі падзеленыя на групы: малодшыя, да 15-ёх год, і старэйшыя, ад 15-ёх і за пяцьдзесятку.

З адзінаццацёх валейбольных камандаў сем было хлапецкіх (Нью Ёрк А і Б, Саўт Рывэр А і Б, Кліўленд А і Б, Канада) і чатыры дзявоцкія (Кліўленд А і Б, Нью Ёрк, Гайлэнд Парк, Бэлер).

У сыботу ўвечары адбыўся баль. За міс спорту сёлета была абраная сп-чна Ніна Запруднік.

Першыя, другія й трэйцfolk месцы здабылі:

**Дзяўчаты малодшыя:** скок удаль — Рыта Гурын, Галіна Каваленка, Ніна Сіцько; плаваньне — Л. Залатоўская, Марыя Касьцюкевіч, Ніна Сіцько.

**Дзяўчаты старэйшыя:** скок удаль — Нона Яцэвіч, Зося Мураўская, Надзя Арцюшэнка; скок угору — Зося Мураўская, Ніна Запруднік, Юля Радзюк; плаваньне — Оля Маталыцкая, Люся Валюкевіч, Юля Радзюк.

**Хлапцы малодшыя:** скок удаль — Валянтын Каваленка, Пятро Захаркевіч, Лявон Талмачавец; плаваньне — Валянтын Каваленка, Валянтын Васілеўскі, Вінцэсь Мярляк і Стась Татарыновіч.

**Хлапцы старэйшыя:** скок удаль — Тамаш Дубяга, Віктар Марына, Віктар Васілеўскі; скок угору — Тамаш Дубяга, Віктар Марына, Міхась Юрцэвіч; плаваньне — Пятро Каваленка, Дан Кнэрык, Даніла Мярляк; кіданьне кулі — Янка Запруднік, Фрэнк Лоўэлі, Тамаш Дубяга.

**У валейболе:** зь дзявоцкіх камандаў першае месца заняў Бэлер (гралі: Галіна Кажура-Гіл, Соня й Крыстына Каваленка, Надзя Арцюшэнка й Алеся Сладкоўская); другое месца заняла каманда Кліўленд А. З хлапецкіх камандаў, пасьля зацятага змаганьня, на першае месца выйшаў Саўт Рывэр А. (гралі: Жорж Арцюшэнка, капітан, Мікола Вайцяхоўскі, Боб Цупрык, Антон Каўтуновіч, Стыў Махнач і Дон Кэнэзік.

Як і летась, адбылася таварыская сустрэча зборных хлапецкае й дзявоцкае валейбольных камандаў із зборнымі з суседняга ўкраінскага цэнтру адпачынку „Верхавіна“. У групе А гралі: Эрык Павалс, Юрка Патапенка, Віктар Страпко, Стыў Махнач, Жорж Арцюшэнка й Дан Кэнэзі. Змаганьне было вельмі цікавым і зацятым, бэлераўцы прайгралі 1:3. У групе Б з Украінцамі (з пройгрышным вынікам 0:2) гралі: Павал Васілеўскі, Віктар Васілеўскі, Андрэй Кананчук, Міхась Каваленка, Антон Сільвановіч, Альгерд Кажура, Боб Махнач, Міхась Дзяркач. Дзяўчаты затое вярнуліся зь перамогай 2:0. У дзявоцкай камандзе гралі Галіна Тумаш, Надзя Арцюшэнка, Соня Каваленка (якую, пасьля выпадку, замяніла Люся Маталыцкая), Марыя Каваленка, Люся Валюкевіч і Алеся Сладкоўская.

Як і папярэднімі гадамі, шмат працы й высілку ў правядзеньне сустрэчы ўклалі сп. сп. Грыша Арцюшэнка, Янка Муха й Міхась Сенька. Высілак іхны даў добрыя вынікі: сёлета ў сустрэчы ўзяў рэкордны лік моладзі: асобаў 150 брала ўдзел у змаганьнях, і гэтулькі-ж, калі ня больш, з энтузіязмам сачылі прабег спаборніцтваў. Добрай адзнакай сустрэчы была здысцыплінаванасьць, зладжанасьць ды запраўдная спартовая й сяброўская атмасфэра.

**Я. З.**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД “БЕЛАРУСА”

**За папярэдні пэрыяд (месяц жнівень) паступілі ў касу нашае газэты наступныя надпіска й ахвяры на Выдавецкі Фонд „Беларуса“:**

**I. ЗША:**

1. В. і М. М. ........................ $ 25.00
2. Таня Новік ........................ 10.00
3. М. Рагуля ........................ 10.00

**Разам: $ 45:00**

**II. КАНАДА**

**А. Сабрана сп. А. Маркевічам ад Беларусаў Канады:**

1. В. Навіцкі ........................ $ 10.00
2. П. Попель ........................ 10.00
3. Л. Наркевіч ........................ 10.00
4. М. А. ........................ 10.00
5. М. Ганько ........................ 10.00
6. Я. Хрэноўскі ........................ 10.00
7. А. Сапляк ........................ 5.00
8. Ул. Целеш ........................ 5.00
9. С. Палячэнка ........................ 4.00
10. Я. Алешка ........................ 2.00

**Б. Сабрана сп. Скарабагачом на вясельлі Сп-ва Лішчонкаў у Ашаве** ............ 10.00

**Разам: $ 86.00**

**III. АЎСТРАЛІЯ:**

**А. Прыслана індывідуальна:**

1. Д-р Ул. Мілянцэвіч ........ $ 57.60

**Б. Заплачана сп-ні А. Каранеўскай суродзічамі ў Сыднэі:**

1. М. Антух ........................ 10.00
2. Л. Дзядуля ........................ 10.00
3. М. Мілеўскі ........................ 10.00
4. М. Бабака ........................ 5.00
5. А. Калпяка ........................ 5.00

**Разам: $ 97.60**

**V. АПЛАТЫ ЗА КЛІШЫ Й АБВЕСТКІ:**

1. БІНіМ у Канадзе за абвесткі ........................ $ 40.00
2. БІНіМ у Канадзе за клішы 105.00

**Разам: $ 145.00**

**VI. КНІЖНЫ ФОНД:**

1. А. Каранеўская за прададзеныя кнігі ........................ $ 32.10
2. Індывідуальная выпіска 3-га тому „Выбраных твораў“ М. Гарэцкага ........................ 22.50

**Разам: $ 54.60**

Кніжны Фонд заносіцца на асобны рахунак і не ўваходзіць у вагульную суму прыбыткаў.

**Усяго разам: $ 373.60**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса“ выказвае шчырае беларуская дзякуй!**